

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 СНЕЖАНЬ 1 Серада

№ 227 (662)

Цана 20 рублёў

## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ

### АВТОБУС — В ПОДАРОК

Благотворительный центр «Отклик» недавно принимал гостей из Германии.

Представители четырех немецких организаций, занимающихся помощью детям, пострадавшим от аварии на Чернобыльской АЭС, пригнали и подарили центру туристический автобус. Как сказал заместитель председателя Новой группы помощи (г.Менхенгладбах) господин Фитц, они очень надеются, что машина будет использована для перевозки белорусских детей на оздоровление. Вместе с автобусом немцы привезли и благотворительный груз: медикаменты для Воложинской детской клиники и рождественские подарки, часть которых, как сообщил корреспондент РИДа, уже доставлена в Узденскую школу-интернат.

Юрий ЛЕШКЕВИЧ. Фото автора.



### ПЛЮС ЧАДНЫ ГАЗ У НАС

Нядаўняя пастанова Савета Міністраў рэспублікі аб забароне вывазу тавараў на суму, якая перавышае 15 мінімальных заработных плат ці трох мільёнаў рублёў, на першы погляд стаіць на варце спажывецкага рынку Беларусі. Але такі захад нечакана апусташыў камісійныя аўтамагазіны. Калі раней патрыманыя іншамаркі, якія прыганяліся з захаду, у вялікай колькасці прадаваліся цераз Беларусь далей на ўсход, то цяпер гэтага рабіць нельга, таму што нават вельмі пастарэлая «аўтабабуля» каштуе даражэй за дапушчальны мінімум. Бюджэт рэспублікі нясе вялікія страты: сем працэнтаў камісійных ад кошту машыны ішлі ў агульны кацёл. Цяпер іх няма. Затое ўсё больш аўтасмецця застаецца ў рэспубліцы, якое яшчэ больш абвастрае экалагічную сітуацыю.

Ірына СЯРОПНА.

### □ КОРАТКА

*Учора ў памяшканні выставачнага комплексу «Кірмаш» (пр.Дзяржынскага, 100) пачалася выстава «Поспех–93». На ёй 30 фірм–вытворцаў з краін Усходняй Еўропы і СНД прадстаўляюць шмат вырабаў, без якіх поспеха не дасягнуць, а дасягнуўшы — не адчуць яго смак.*

*Увогуле, поспех — рэч вельмі цікавая, хоць і пераменлівая. Дабіваюцца яго толькі настойлівыя. Здаецца, такіх сярод беларускіх бізнесменаў — большасць.*

### ЦІ БЫЦЬ САЮЗУ ГРАМАДЫ І ПРАФСАЮЗАЎ

26 лістапада Выканаўчы камітэт Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады на сваім пасяджэнні працаваў над прынцыпамі сацыял-дэмакратычнага передвыбарчага блока. Былі вызначаны асноўныя з іх. Гэта сацыяльная абарона людзей наёмнай працы, нейтральная і бяз'ядзерная беларуская дзяржава, пераход да рынкавай эканомікі з улікам сацыяльнага фактару і нацыянальна-культурнае адраджэнне. Мяркуецца, што канчаткова прынцыпы сацыял-дэмакратычнага блока будуць выпрацаваны на працягу аднаго-двух месяцаў. Аб'яднаць жа ў гэтым перадвыбарчым блоку, як заявіў падчас гутаркі з карэспандэнтам БелаПАН старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады Алег Трусаў, партыя спадзяецца перш за ўсё дзеючыя ў рэспубліцы прафсаюзы, як афіцыйныя, гэтак і незалежныя, а з палітычных арганізацый — Партыю народнай згоды і Беларускую сялянскую партыю.

Антон АНДРОСАЎ.

### АБ МІНІМАЛЬНАЙ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАЦЕ ЗАКІНЬЦЕ СЛОЎЦА

**Як паведамілі карэспандэнту БелаПАН у прэс–цэнтры Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, накіраваны ліст ад імя ФПБ на адрас прэм'ер–міністра Вячаслава Кебіча. У лісце, у прыватнасці, зазначаецца, што рост цэн на малочную і мясную прадукцыю з 22 лістапада прывядзе да яшчэ большага зніжэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва. Паводле разлікаў спецыялістаў ФПБ, мінімальны спажывецкі бюджэт на аднаго члена сям'і з чатырох чалавек складзе ў бліжэйшы час 90 тысяч рублёў. У сувязі з гэтым Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі прапануе ўстанавіць памер мінімальнай заработнай платы ў снежні не ніжэй за 35 тысяч.**

**У лісце таксама змяшчаецца прапанова распаўсюдзіць гэты дакумент сярод народных дэпутатаў на сесіі Вярхоўнага Савета.**

Ірына ЛЕЎШЫНА.

### МАРА БЕЛАРУСКІХ СТАМАТОЛАГАЎ ЗУСІМ РЭАЛЬНАЯ

З 29 лістапада па 1 снежня ў Мінску праходзіць семінар «Навейшыя стаматалагічныя матэрыялы і абсталяванне фірмы «Херыюс Кюльцэр ГмбХ» і іх практычнае прымяненне ў стаматалогіі». Семінар арганізаваны спецыялістамі мінскага медыцынскага цэнтра «Кіпарыс-2», які прадстаўляе ў нашай рэспубліцы вядомую германскую фірму «Херыюс Кюльцэр ГмбХ». Гэта ўжо другі вучэбны семінар у бягучым годзе. І хоць за ўдзел у ім трэба плаціць, жадаючых азнаёміцца з навейшымі дасягненнямі нямецкіх стаматолагаў аказалася больш ста. Госці не толькі азнаёмілі, але і паказалі прымяненне на практыцы прапануемых сродкаў.

Паводле звестак БелаПАН, абсталяванне і інструменты германскі канцэрн, які спецыялізуецца на гэтым матэрыяле больш за сто гадоў, гатовы пастаўляць і ў Беларусь, прычым, за рублі.

Ірына СЯРОПНА.

### «НЕАПЛАН»: ЁСЦЬ ПЕРШЫ АЎТОБУС?

**Ён сабраны ў Беларусі, але складаецца цалкам з нямецкіх камплектуючых. Атрымалася прыгожа, але дорага — 350 тысяч дойчмарак. І хоць гарадскому пасажырскаму аўтааб'яднанню яго прадаюць за 300 мільёнаў «зайцоў», гэта ўсё роўна ў тры разы даражэй, чым цана «ЛіАЗаў», зборка якіх таксама праводзіцца ў Беларусі.**

**У наступным годзе «Белаўтамаз» плануе сабраць каля ста «Неапланаў». Адначасова на заводзе актыўна вядзецца праца па стварэнню ўласных вузлоў і агрэгатаў. Калі рэспубліканскія прадпрыемствы возьмуцца іх вырабляць, то аўтобус у канчатковым выніку атрымаецца танней.**

**І хоць пакуль «Неаплан» — вельмі дарагое здавальненне — у перспектыве ён зможа не толькі падняць прэстыж Беларусі, але і прыносіць рэспубліцы валюту — гэта аўтобус вышэйшага сусветнага ўзроўню.**

Ірына СЯРОПНА.

### «ВЯСНА–94» ЎСТУПАЕ Ў ПРАВЫ

***27 лістапада ў памяшканні мінскай сярэдняй школы № 28 адбыўся ўстаноўчы сход грамадскага камітэта аб'яднання дэмакратычных сіл «Вясна–94» Цэнтральнага раёна беларускай сталіцы. Увайшло ў яго каля 20 прадстаўнікоў мясцовых арганізацый дэмакратычных партый і рухаў, а ўзначаліў Яфім Поляк, прадстаўнік кіраўніцтва Канфедэрацыі працы Беларусі. Раней падобныя грамадскія камітэты былі ўтвораны ў Першамайскім і Савецкім раёнах Мінска.***

Ян КАПЫЛЬСКІ.

## ■ РЭХА ПАДЗЕІ

Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.

### БАЛАДА ПРА НЕЙТРАЛЬНУЮ ПАЛАСУ

**Героям Слуцкага паўстання 1920 года супраць бальшавіцкага рэжыму прысвячаю.**

Палякі тут, а тут бальшавікі.
І горад Слуцк у паласе нейтральнай.
А па-над гэтай паласой лунае:
«Быць Беларусі вольнай навякі!..»

Збіраецца ў Слуцку збройны чын —
Сяляне, гараджане і вайскоўцы:
Рашучыя, абстрэленыя хлопцы
З дзесятка непужлівага мужчын.

Гавораць: «Ні чырвоных, ні паноў
На карку не стрываюць беларусы...»
Гавораць: «Чым сканаем пад прымусам,
Няхай пральецца лепей наша кроў...»

І ў бой ідуць яны за родны край,
За мілыя дзяцінцы і дзядзінцы,
За тое, каб народ увесь чужынцы
Не заманілі ў пралетарскі рай...

Каб дзеці не спазналі Салаўкоў,
Лукішкаў, Курапатаў ды Хатыняў,
Каб у Чарнобыль генафонд не кінуў
Тутэйшы бонза — партакрат Слюнькоў...

Каб кожны род меў у вяках працяг
Ды красаваў сярод лясоў і гоняў...
Каб нас да шчасця прывяла Пагоня,
Наш нескароны, наш крывіцкі сцяг!

Ды толькі саранчою чужакі
На Семежава зноўку напіраюць...
І Беларусь на часткі раздзіраюць
Драпежныя браты ўжо ў раз які!

Давайце ж мы дваццаты ўспомнім год,
Дзядоў сваіх ды прадзедаў успомнім...
Не іх, а нас чырвоных д'яблаў коні
Стапталі ды стаўклі ў бяздумны зброд.

Не іх, а нас перастраляў ГУЛАГ,
Не з іх, а з нас для псоў варылі сцюдзень...
Ці ж уваскрэснем мы, калі забудзем
На год дваццаты, на герояў прах?

Калі ў глухім беспамяцтве сябе
Задушым самі ўласнымі рукамі...
Дык хто, скажыце, выйдзе разам з намі
На ніву нашу з думкай аб сяўбе?

Калі ты не прыблуда і не таць,
Калі з душы не вытурыў Ісуса,
Калі яшчэ завешся беларусам,
То Слуцкі чын спакойна спаць не дасць...

### ЗБРОЙНЫ ЧЫН: УЖО НЕ МАЎЧЫМ

27 лістапада на Случчыне адбылося святкаванне семдзесят трэціх угодкаў Слуцкага збройнага чыну. Акрамя мясцовай грамадскасці, удзельнічала ў ім і дэлегацыя Беларускага згуртавання вайскоўцаў, Беларускага народнага фронту, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады з Мінска. У Семежаве адбыўся жалобны мітынг. У Слуцкай царкве адслужана набажэнства ў памяць аб загінуўшых. У Доме дзіцячай творчасці ў Слуцку прайшла ўрачыстая вечарына. Яна, дарэчы, не змагла пачацца своечасова з-за таго, што мясцовыя ўлады напачатку забаранілі выкарыстоўваць для гэтай мэты названае загадзя арэндаванае памяшканне — туды не пусцілі нават народных дэпутатаў Беларусі Лявона Дзейку і Барыса Гюнтара. Толькі пасля паўгадзінных перагавораў з прадстаўнікамі раённага выканаўчага камітэта і рашэння дэпутатаў правесці сустрэчу з выбаршчыкамі прама на вуліцы дазвол уладаў быў атрыманы. З прамовамі на вечарыне выступілі старшыня БЗВ Мікалай Статкевіч, яго намеснік Алесь Станкевіч, народныя дэпутаты Барыс Гюнтар і Лявон Дзейка, кіраўнік мясцовай арганізацыі БЗВ Анатоль Сазонаў. Некалькі песень, у тым ліку прысвечаную Слуцкаму паўстанню, выканаў бард з-пад Мінска Кастусь Герашчанка.

Сяргей ЛІТВІН.

### КАЛЯНДАР

**Серада, 1 снежня**

*СОНЦА — 8.04/15.54.*

*Даўжыня дня — 7.49.*

*МЕСЯЦ — поўня 29 лістапада,*

*захад 8.46/усход 16.47.*

**ІМЯНІНЫ**

*Сёння:*

*Праваслаўныя — Варула, Платона, Рамана.*

*Каталіцкія — Наталлі, Эдмунда.*

*Заўтра:*

*Праваслаўныя — Аўдзея, Варлама, Іаасафа.*

*Каталіцкія — Паўліны, Пятра.*

### КУРС ОБМЕНА наличной валюты в обменных пунктах коммерческих банков г.Минска и официальный курс, установленный Национальным банком на 1 декабря 1993 года

| Наименование банка | Доллар США | | | Немецкая марка | | | Российский рубль | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Покупка | | Продажа | Покупка | | Продажа | Покупка | Продажа |
| | Наличный расчет | Чековая книжка | | Наличный расчет | Чековая книжка | | | |
| Минское отделение АРКБ "Комплекс" | 4570 | 5020 5800 | 4800 | 2680 | 2945 3170 | 2820 | 3.35 | 3.55 |
| АКБ "Белбизнесбанк" (на 30 ноября) | 4900 | 5390 | --- | 2860 | 3145 | --- | --- | --- |
| АКБ "Белорусский народный банк" | 4450 | --- | 5000 | 2600 | --- | 2920 | 3.20 | --- |
| АКБ "Белпромстройбанк" | 4530 | --- | 4920 | 2620 | * * | 2870 | 3.20 | 3.55 |
| АКБ "Беларусь" | 4710 | 5600 | --- | 2775 | 3296 | --- | --- | 4.50 |
| ГКБ " Сбербанк" | 4585 | 5025 | 5030 | 2685 | 2945 | 2950 | 3.35 | 3.65 |
| АКБ "Приорбанк" | 4650 | 5100 | 4870 | 2730 | 3000 | 2860 | 3.00 | 3.70 |
| КБ "ПРОФБАНК" (на 30 ноября) | --- | * * | --- | --- | * * | --- | 3.50 | --- |
| КБ "Северо-запад" (на 30 ноября) | --- | * * | --- | --- | * * | --- | --- | --- |
| Национальный банк РБ | 6750.00 | | | 3952.23 | | | 4.15 | |

■ ** -- не принимают ■ Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Гревцова". Тел./факс (0172) 31-04-02

## ■ ФЕСТИВАЛИ



Фестиваль народного творчества «Спадчына» начался в Минске. В нем приняли участие ансамбль народной музыки «Терница», фольклорные группы «Сябрына» и «Калі ласка», детский ансамбль «Кураняты» и другие коллективы.

СПАДЧЫНА

**НА СНИМКАХ: юные танцоры ансамбля «Росинка» из СШ № 123; выступает фольклорная группа «Сябрына» НПО «Планар».**

Фото Виктора ТОЛОЧКО, БЕЛИНФОРМ.



## ■ ЗДАРЭННІ

### «НУМАР» У ПАЖАРНЫМ ПАРАДКУ

*Гэты нумар газеты, які вы, паважаныя чытачы, трымаеце ў руках, ствараўся ў поўным сэнсе гэтага слова ў пажарным парадку. Бо ўчора недзе каля 15 гадзін на другім паверсе Дома друку, дзе якраз і размяшчаецца рэдакцыя «Добрага вечара», выбухнуў пажар. Прычым менавіта выбухнуў, бо ў гэты час супрацоўнікі знаходзіліся на традыцыйнай планёрцы і толькі па гуку выбуху, дастаткова, між іншым, адчувальнага, зразумелі, што нешта здарылася. Прынамсі, адразу гэта стала зразумела даволі яскрава па вогнішчу, якое выбівалася са шчыткa ў калідоры. Трэба аддаць належнае пажарнікам Першамайскага і Савецкага аддзелаў, якія аператыўна прыбылі на месца, разабраліся ў абстаноўцы і патушылі ўзгаранне. А трэба сказаць, што як агню, але дыму хапіла не толькі па ўсіх калідорах другога паверха, але нават і калегам, што сядзяць вышэй нас, выпала гэтага «шчасця». Але самае прыкрае ў гэтай сітуацыі тое, што прапала электраэнергія па ўсім гэтым крыле вялізарнага будынка. І, галоўнае, — замоўклі кампутары. Вядома, выйсце будзе знойдзена, але, зноў жа, гэта будзе каштаваць пэўных намаганняў. Але газета будзе выходзіць і ў тыя дні, пакуль працягнецца рамонт. Ну, а прычыны ўзгарання, як кажуць у такіх выпадках, высвятляюцца.*

Іван КАХНОВІЧ, «ДВ».

## ■ ГЭТА ФАКТ

### УДАРЫМ ЗАКОНАМ ПА КАЛДОБІНАХ

Дзяржаўнай аўтамабільнай інспекцыяй распрацаваны праект закона аб дарожным руху. Такія законы даўно дзейнічаюць у ЗША, ФРГ, Францыі, а з нядаўняга часу і на Украіне. Працуюць над аналагічнымі дакументамі ў Эстоніі, Казахстане, іншых рэспубліках СНД.

«Адміністрацыйнай адказнасці, якая зараз дзейнічае, недастаткова, — растлумачыў карэспандэнту БелаПАН намеснік начальніка ДАІ МУС рэспублікі М.І.Харужы. — Неабходна, каб усе ўдзельнікі дарожнага руху мелі свае правы і абавязкі, у тым ліку і ўладальнікі дарог у выпадках, калі з-за нездавальняючага іх стану адбываюцца дарожна-транспартныя здарэнні».

Распрацоўшчыкі лічаць, што закон не толькі азначыць меру адказнасці, але і абавяжа прадпрыемствы, установы, грамадзян, а не толькі ДАІ, удзельнічаць у забеспячэнні бяспекі на дарогах.

А вось калі праект стане законам — сказаць цяжка: ён уключаны ў графік разглядання на Прэзідыуме Савета Міністраў, затым павінен быць вынесены на Вярхоўны Савет.

Пакуль жа, згодна са статыстыкай ДАІ, практычна кожная трэцяя з усіх смярцей у рэспубліцы — вынік дарожна-транспартных здарэнняў. Застаецца толькі здагадвацца, які матэрыяльны ўрон ад калдобін на магістралях.

Ірына СЯРОПНА.

## ■ ДЕЛОВОЙ МИНСК

### В НАШЕМ ГОРОДЕ СРАЗУ ЧЕТЫРЕ ЯРМАРКИ...

Андрей ПОТРЕБИН, Михаил ВАЛЬКОВСКИЙ, «ДВ».

Выставочная компания «Экспосервис» проводит в эти дни в рамках международного фестиваля сразу четыре ярмарки.

Безусловно, «Балтэкспо-93», «Современный офис и банк» (пр.Машерова, 14) привлекли внимание деловых людей, а «Все для дома» и «Предрождественская ярмарка» — и широких слоев населения.

...«Современный». Это слово — ключ ко всем экспонатам, связанным с оснащением офисов и банков. Здесь есть электроника, программное обеспечение, системы связи, охраны, распознавания, сейфы, иные сложные технические приспособления и оборудование для банковского дела. Не считая материалов для отделки офиса, разных мелочей, делающих бизнес приятным и продуктивным.

В салоне «Современный банк и офис» участвуют более 80 фирм и научных учреждений. «Мы убедились, что тема экспозиции выбрана очень удачно, — говорит ее директор Е.В.Пашко. — И банки, и многие предприятия, и наша наука стараются показать все, что способствует прогрессу банковского дела». В рамках этого мероприятия пройдут семинары «Безналичные расчеты населения по кредитным карточкам» (НИИ ЭВМ, Минск) и «Реклама в целях создания престижа фирмы» (РИА «Форте»).

...Не угасла традиция делать подарки к Рождеству. Выбрать подарок — не проблема, если зайти в эти дни на выставки во Дворце искусств. Подарить что-то полезное для дома? Игрушки? Вещь, нужную для работы? Вариантов много. Возможно, кто-то не поскупится и позволит себе выбрать мебельный гарнитур или видеомагнитофон «Самсунг», собранный в Воронеже.

...А продукция из стран Балтии с помощью «Литэкспо» широко представлена в комплексе на пр.Машерова, 14. Здесь много традиционных и знакомых товаров из Вильнюса, Каунаса, Риги, которые еще не забыты белорусскими потребителями. Жаль, что преград между покупателями и производителями товаров стало больше. Но разрушить их как раз и помогает международный фестиваль ярмарок.

■ РЕЗОНАНС

# ПОКА ЖИВА ПАМЯТЬ

**Размышления по поводу судебного процесса над писательницей Светланой Алексиевич**

Человек обязан своей памяти не только тем, что она сохраняет для него накопленные за жизнь знания, имена и даты, события и лица, впечатления и мотивы собственного поведения. Человек обязан своей памяти еще и тем, что она позволяет многое из этого забыть. Если бы человек был лишен способности забывать, если бы его мозг был наполнен всем тем количеством сведений и эмоций, которые ему подарила его жизнь, если бы память умело не отсекала существенное от несущественного, если бы не отбрасывала детали и то, что мы называем мелочами жизни, сама жизнь была бы превращена в ад.

Но вот проходят годы, и вдруг выясняется, что людям, всему человеческому сообществу, мало того, что им оставляет история. Та история, к которой мы привыкли, где именно и есть имена, даты и события, где есть факты и их оценка, но где не остается места для человека. Для того самого конкретного человека, который был не просто участником этих событий, некой статистической единицей, а представлял из себя определенную личность, был наполнен эмоциями и впечатлениями, историей, как правило, не фиксируемыми.

Однако со временем выясняется, что факты, даты и события и уж тем более их оценка зафиксированы историками неверно, что сделано это некогда с учетом тенденций и идеологии, характерных для описываемой эпохи, но уже ничего изменить нельзя: исчезли документы, ушли из жизни люди, короче, умерла память. А когда умирает память, гибнет истина, и все последующие поколения будут питаться ложью. Ложью о событиях и людях, о самом времени.

Но есть вещи, которые все-таки врезаются в память на всю жизнь.

Я не помню, когда вышла книга Светланы Алексиевич «У войны не женское лицо» — лет пятнадцать прошло уже, наверное, но у меня и сейчас перед глазами зримо стоит эпизод: на марше женский батальон, жара, пыль, а в пыли — то здесь, то там пятна крови, — для женского организма нет перерывов даже на войне.

Какой историк зафиксирует такой факт? И сколько рассказчиков должен пропустить через себя писатель, чтобы выудить его из бессметного числа фактов, впечатлений?

Или еще. После маршевого броска женский батальон оказывается на берегу реки. Возможность обмыться — одно из счастливых мгновений для женщины на войне. Весь батальон бросается в воду, но тут невесть откуда появляются немецкие самолеты, и с неба начинает литься свинцовый дождь. Но никто не вылез из воды, не бросился в кусты, не спрятался за деревьями. Естественное для женщины стремление к чистоте оказалось сильнее страха смерти.

Какой психолог смог бы смоделировать ситуацию для объяснения, что такое женская чистоплотность, так, как это сделал писатель, выудивший этот эпизод из бессметного числа рассказанных ему эпизодов?! (Это, кстати, тоже один из тех моментов, которые остались во мне после книги «У войны не женское лицо».)

Я ничего не имею против толстых томов, наполненных огромным количеством исторического и справочного материала. Страшно люблю ковыряться в энциклопедиях. Любимые авторы — Е.Черняк, Н.Эйдельман, Ю.Гессен. В конце концов, сам — автор четырех книг по истории. Но я не знаю документа, который бы более сильно обличал фашизм, чем «Дневник Анны Франк». И как бы ни интересно было читать многотомную «Блокаду» А.Чаковского, подлинная трагедия Ленинграда все-таки встает со страниц «Блокадной книги» Д.Гранина и А.Адамовича.

После того, как вышла книга А.Адамовича, Я.Бryля и В.Колесника «Я из огненной деревни», думалось, что наступила эра новой литературы, что вот-вот одна за другой появятся книги воспоминаний, книги, собранные из рассказов очевидцев, книги-документы. Но очень скоро выяснилось, что этот труд — создание подобных книг — далеко не всем по плечу, и не только по своей невероятной трудоемкости, но и в силу своей особой специфичности. Оказалось, книга подобного рода — не механическое собирание людских повествований. Такая книга — часть некой ненаписанной энциклопедии эпохи, какой-то отдельный ее раздел, освещенный с максимальной полнотой.

Так случилось, что моя жена стала одним из персонажей подобной энциклопедии. В книге Светланы Алексиевич «Последние свидетели» есть и ее рассказ, и я увидел такую книгу «изнутри». Ну, казалось бы, чего проще: запиши на магнитофон рассказы ста-двухсот или еще большего количества людей, которым в годы войны было меньше шестнадцати лет, — и книга готова. Но полистайте эту книгу, и вы увидите: нет двух свидетельств, похожих друг на друга. И не потому, что судьба одного человека не похожа на судьбу другого, а потому, что на всей книге лежит печать Мастера. Если бы это было механическим собиранием свидетельских показаний, человек, записывающий эти показания на магнитофон, а потом изложивший их на бумаге, не мог бы называться автором книги.

Бегут года. Года складываются в десятилетия. Идет естественная смена поколений, и идет она, к сожалению, значительно быстрее, чем это нам иногда может показаться. И как бы близко от нас ни были события — афганской войны, чернобыльской трагедии, московских путчей, таджикских погромов, — но вдруг выясняется, что все они уже являются достоянием истории, и уже новые катаклизмы приходят им на смену, и к ним, новым, уже приковано внимание общества. И уходят свидетельства, потому что человеческая память, оберегая нас, старается затушевать те эмоции и воспоминания, которые мешают человеку жить, лишают его сна и покоя. А потом уходят и сами свидетели. Уходят, чтобы не вернуться никогда.

Но вот находится человек, который берет на себя эту страшно тяжелую ношу и пытается сохранить для истории бесценные воспоминания современников. И чаще всего созданная таким человеком книга начинает будоражить нашу совесть — совесть людей, не остановивших войну, допустивших геноцид, молчаливо взиравших на произвол и насилие. И тогда такая книга становится свидетелем обвинения.

Тяжелое наследие тоталитарного прошлого довлеет над нами. Ах, как не хочется многим «удельным князьям» канувшего в Лету режима признать, что и над ними есть суд — и суд людей, и суд истории! Ах, как не хочется им верить, что наступили времена, когда любой «щелкопер и бумагомарака» может позволить себе поднять руку на «светлое прошлое», «очернить и унизить» его, подвергнуть сомнению «великие идеалы»! Ах, как мешают им книги, наполненные показаниями последних свидетелей!

Можно дезавуировать генерала КГБ Олега Калугина: генералами КГБ так просто не становятся. Но невозможно дезавуировать показания сотен простых смертных — афганцев, чернобыльцев, жертв межэтнических конфликтов, беженцев из «горячих точек», — уж их-то никак не заподозришь в преследовании личных и тем более корыстных интересов. Зато можно «прижучить», «поставить на место», «заткнуть рот» журналисту, писателю, психологу, собравшему эти свидетельские показания.

Нам, конечно, не привыкать. Судили уже и Синявского с Даниэлем, подвергали анафеме Бориса Пастернака, как некогда Льва Толстого, смешивали с грязью Солженицына и Дудинцева. Мы еще не очистились от того дерьма, которым обливали в совсем недавнем прошлом Алеся Адамовича, и в котором мы все оказались по уши перепачканы. Только где сейчас эти хулители и бранители? А «Доктор Живаго» вошел в золотой фонд литературы XX века...

Конечно, некорректно сравнивать «Цинковых мальчиков» Светланы Алексиевич с «Доктором Живаго» Бориса Пастернака. Но вот ведь незадача: судят сегодня Светлану Алексиевич, о чем честно и объективно рассказывает читателю газета «Добры вечар».

Да, я не оговорился, судят именно писательницу. Это не иск по поводу неверно изложенного рассказа или тенденциозно поданных чьих-то воспоминаний. Давайте хоть сейчас, когда все же наступили новые времена, будем откровенны — перед собой, перед обществом, перед самой историей, наконец: из этого иска грубо и почти неприкрыто торчат уши политического процесса. Неужели нам придется когда-нибудь краснеть еще и за то, что мы не смогли в наше, вполне демократическое время, предотвратить расправу над писателем, остановить руку погромщиков от литературы?!

**Ну, замолчит Светлана Алексиевич. Ну, перестанут появляться свидетельства жертв нашего преступного века. А что же останется нашим потомкам? Слащавое сюсюканье любителей победных реляций? Барабанный бой вперемежку с бравурными маршами? Так ведь это уже все было. Через это мы уже прошли. И не принесло нам это, как известно, ни почестей, ни славы. Только позора добавило.**

**А как же все-таки поступить с совестью? С той больной совестью, которой всегда была наша публицистика. Неужели опять найдется рука, которая заставит эту совесть молчать?!**

**Яков БАСИН, публицист.**

■ ЭКОНОМИКА



## ЗОЛОТЫХ ДЕЛ МАСТЕРА

Первая в республике ювелирная фабрика появилась в Гомеле. Она создана на базе одного из участков завода «Кристалл».

На предприятии и прежде занимались обработкой алмазов. Однако вся продукция отправлялась либо за рубеж, либо в Москву. Долго и сложно решалась проблема организации производства на новой основе. С этой целью было перепрофилировано базовое ПТУ. Вместо учебных кабинетов (предприятие перестало ощущать нехватку свежих кадров) организованы производственные места.

Сегодня предприятие уже выпускает обручальные кольца с бриллиантами, подвески с финифтью, мельхиоровые чайно-кофейные наборы. Ведутся разработки по изготовлению ложечек, кувшинчиков из серебра и других драгоценных металлов.

**НА СНИМКАХ: золотых дел мастер Александр Писаренко; такие изящные изделия делают в Гомеле.**

**Фото Сергея ХОЛОДИЛИНА, БЕЛИНФОРМ.**



■ РЕСПУБЛИКА

### Доигрались «на понижении»

**Желание «погреть руки» на валютных махинациях «кружит головы» не только новоявленным «коммерсантам», но и промышленникам. Так, на валюте «обжегся» концерн «Мясомолпром» (Брест). Концерн реализовал на экспорт казеин. Выручка, полученная в валюте, за вычетом платежей в валютный фонд, зачислена на счет предприятия, а налоги в бюджет не уплачены. Как сообщили корреспонденту РИДа в Главной государственной налоговой инспекции Республики Беларусь, с предприятия взыскано 673 млн.рублей.**

### Рублевая зона «оградит» от пропасти?

Экономическая база республики поставлена на грань гибели, считают руководители промышленных предприятий города Гомеля, подписавшие обращение к Верховному Совету и правительству республики.

Спасти положение, говорится в обращении, может поэтапное создание рублевой зоны нового типа и экономического пространства на базе рыночных отношений между бывшими республиками Союза. В качестве платы за энергоносители России предлагается продукция белорусских предприятий.

### «Конверсионные» счетчики «сосчитали»...

**Уже в ближайшем будущем лидер Брестской «оборонки» — электромеханический завод — надеется порадовать аграрный сектор своей новинкой.**

**Как стало известно корреспонденту РИДа, на заводе налаживается выпуск пневматических сеялок, имеющих оригинальную конструкцию. Одновременно осваивается и выпуск другой продукции, среди которой, в частности, — дефицитнейшие по нынешним временам счетчики для электроэнергии и для газа. Однако, плоды конверсии для завода не так уж сладки: с начала года на крупнейшем предприятии Бреста высвобождено более 800 человек.**

### Бог дал. Бог взял?

Продолжаются раскопки на территории Брестской крепости, где более месяца назад обнаружено нигде до этого не упоминавшееся захоронение. Расширяется место раскопок (уже обнаружено 39 останков), а главный вопрос в повестке дня не снят. Кто?..

По-прежнему самая распространенная версия — это останки участников обороны крепости в июне-июле 1941 года (а, возможно, и жертвы фашистского террора). Не исключена возможность и того, что здесь захоронены солдаты периода первой мировой войны.

■ ВОЗРОЖДЕНИЕ



Продолжается реставрация Лидского замка. Эти работы ведет малое предприятие «Дизайн». Сейчас налаживается подача тепла в отреставрированную башню замка, чтобы и в зимнее время продолжать отделочные работы и кладку стен.

**НА СНИМКЕ: объем работ на предстоящие дни определяют с работниками «Дизайна» директор Ричард Груша (в центре) и архитектор Олег Пуртов (второй справа).**

■ ОФИЦИАЛЬНЫЙ ОТДЕЛ

**РЕШЕНИЕ МИНГОРИСПОЛКОМА № 637 ОТ 10 НОЯБРЯ 1993 г.**

## О порядке реализации горюче-смазочных материалов на территории г.Минска

**В целях развития рыночных отношений в сфере обеспечения нефтепродуктами жителей города, руководствуясь постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 1 октября 1993 г. № 666 «О совершенствовании порядка ввоза и переработки нефти, реализации нефтепродуктов в Республике Беларусь» исполком Минского городского Совета народных депутатов Р Е Ш И Л:**

1. Решения исполкома Минского городского Совета народных депутатов от 31 августа 1993 г. № 473 «О выдаче лицензии на розничную торговлю горюче-смазочными материалами» и от 30сентября 1993 г. № 548 «О внесении изменений в Положение «О выдаче лицензий на розничную торговлю горюче-смазочными материалами» — отменить.

2. Исполнительным комитетам районных Советов народных депутатов отводить свободные земельные участки для розничной торговли горюче-смазочными материалами и представлять в комитет экономики Мингорисполкома оперативную информацию о наличии свободных участков.

Установить взимаемую райисполкомами плату за отвод земельных участков и оформление необходимой документации в размере двух минимальных заработных плат.

3. Комитету экономики:

3.1. Размещать на отведенных участках при наличии возможности несколько субъектов хозяйствования для осуществления временной розничной торговли горюче-смазочными материалами.

3.2. Осуществлять выдачу временных разрешений на право пользования земельными участками в г.Минске для розничной торговли горюче-смазочными материалами.

Установить плату за оформление и выдачу разрешений на розничную торговлю горюче-смазочными материалами в размере одной минимальной заработной платы.

4. Разрешить предприятиям, учреждениям и организациям, имеющим на балансе стационарные заправочные станции, розничную торговлю горюче-смазочными материалами в соответствии с данным решением.

5. Разрешить предприятиям, учреждениям и организациям коммунальной собственности сдачу в аренду топливно-заправочных станций, машин, оборудования и других необходимых технических средств субъектам хозяйствования, осуществляющим транспортировку, хранение и реализацию нефтепродуктов потребителям г.Минска.

6. Утвердить «Основные правила ведения розничной торговли горюче-смазочными материалами на территории г.Минска» и Положение «О порядке выдачи временных разрешений на право пользования земельным участком для реализации горюче-смазочных материалов на территории г.Минска».

7. Контроль за выполнением настоящего решения возложить на комитет экономики Мингорисполкома.

**Председатель горсовета А.М. ГЕРАСИМЕНКО,**
**Управляющий делами Л.Н. ВОЛОДЬКИНА.**

**«Добры вечар» также публикует (в изложении) приложения к решению, которые определяют механизм организации торговли ГСМ и порядок контроля за ней.**

Правила ведения розничной торговли ГСМ, которые утвердил горисполком, распространяются на все субъекты хозяйствования независимо от ведомственной принадлежности и формы собственности.

Режим работы этих предприятий устанавливается по согласованию с райисполкомом по месту нахождения мобильных заправочных установок или АЗС. На мобильных заправочных установках должны быть вывески с указанием наименования предприятия, режима работы, цены и марки ГСМ, а также извлечения из нормативных актов, регулирующих розничную торговлю ГСМ. Торговать разрешается только в светлое время суток.

Продавцам предписано иметь приходные документы (товарно-транспортные накладные, счета-фактуры, приходно-расходные накладные, квитанции, договоры) с указанием реквизитов поставщика (продавца), количества товара, цены, общей суммы. Документы хранятся у работников и предъявляются по требованию контролирующих органов. Запрещается прием и продажа ГСМ без сертификата качества или поступивших без сопроводительных документов. Ответственность за реализацию недоброкачественных ГСМ несет предприятие, осуществляющее торговлю. Оно же обязано содержать оборудование и площадку в чистоте и порядке. Продавец должен иметь при себе документы, подтверждающие, что он обучен работе с ГСМ. Горючее запрещено продавать несовершеннолетним и лицам в состоянии алкогольного опьянения.

Предприятия, ведущие эту розничную торговлю, ежемесячно (до 10 числа месяца, следующего за отчетным) представляют в комитет экономики Мингорисполкома сведения о количестве проданного топлива. За нарушение правил — ответственность согласно законодательству Беларуси или лишение права пользования земельным участком. Соблюдение правил контролирует отдел Мингорисполкома по защите прав потребителей, исполкомы местных Советов районов, где находятся АЗС и мобильные заправочные установки, и другие уполномоченные органы.

Определен и порядок выдачи временных разрешений на право пользования земельным участком для такой торговли. Их выдает и регистрирует комитет экономики Мингорисполкома. Их получают предприятия всех форм собственности, имеющие возможность гарантированных поставок нефтепродуктов из-за пределов Беларуси или покупающие их за пределами Минска. Для этого надо представить в комитет экономики заявление по установленной форме, копию устава предприятия, договор на получение нефтепродуктов, копию платежного поручения. А райисполкомы представляют в городское управление по антимонопольной политике и развитию предпринимательства схемы отвода участков для размещения «заправок», согласованные с санэпидстанцией, ГАИ и пожарным надзором. Только после этого выдается разрешение. Естественно, при наличии лицензии Веспроматомнадзора Беларуси на транспортировку взрывопожароопасных грузов и документов, подтверждающих обучение и профессиональные навыки по работе с нефтепродуктами обслуживающего персонала АЗС.

■ ВАЧЫМА МАСТАКА



**Без слоў.**
**Мал. Я.Бусла.**

■ ЗВАРОТЫ

# ЗАБЫТЫЯ ДЗЯРЖАВАЙ

**Таццяна ЛАЗОЎСКАЯ.**

На сходзе былых выхаванцаў дзіцячых дамоў і прытулкаў, якія знаходзіліся пад фашысцкай акупацыяй у 1941-1944 гадах, прыняты зварот да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. У ім выказваецца прапанова прыраўняць вышэйадзначаныя дзіцячыя дамы і прытулкі да канцэнтрацыйных лагераў, а саміх дзяцей — да вязняў канцлагераў, а таксама распаўсюдзіць на іх тыя льготы, сацыяльныя даброты, якімі карыстаюцца былыя вязні канцлагераў.

Прапанова абгрунтоўваецца наступным. Дзіцячыя дамы на акупіраванай тэрыторыі Беларусі фактычна з'яўляліся маленькімі канцлагерамі.

Штандкамісарыятам, у падпарадкаванні якога яны знаходзіліся, тут праводзілася палітыка сапраўднага генацыду. Умовы жыцця былі жахлівыя: дзеці паміралі ад голаду і хвароб, жорсткасці і бессардэчнасці, якімі характарызаваўся так званы «выхаваўчы» працэс. Калі б не гераізм, самаахвярнасць беларусаў — выхавальнікаў і персаналу, рэдка хто б дажыў да вызвалення.

Дзіцячыя дамы служылі рэзервам, з якога акупанты набіралі «рабочую» сілу: падлеткі вывозіліся ў Германію, малыя дзеці эксплуатаваліся на сельскагаспадарчых работах, у выхаванцаў літаральна высмоктвалі кроў для раненых нямецкіх салдат.

Фашысты ведалі, што сярод выхаванцаў шмат яўрэйскіх дзяцей. І як мага стараліся пакараць тых, хто ратаваў няшчасных: перафарбоўвалі ім валасы, хрысцілі, уносячы прыдуманыя беларускія прозвішчы ў кнігі прыходскіх цэркваў. Спецыяльныя камісіі праводзілі селекцыю, выяўлялі дзяцей-яўрэяў для знішчэння, кожнае з іх мела свой нумар.

Былых вязняў-дзяцей з кожным годам становіцца менш. Хворыя, бездапаможныя яны несправядліва забытыя грамадствам і дзяржавай. Ім патрэбна дапамога.

■ НА ОДНУ ТЕМУ

### ЧТО ХОЧУ, ТО И ВОРОЧУ

**Алла КОХОВЕЦ.**

22 ноября в 9.15 в автобус по маршруту № 16 вошел мужчина-контролер и громовым голосом выкрикнул: «Предъявить проездные!». Я сделала ему замечание, что он невежлив в обращении и должен хотя бы сказать «пожалуйста». В ответ понеслась нецензурная брань: «Может, я каждой сволочи буду еще кланяться? Я тебя...».

Мне нужно было поставить сумочку на кресло, чтобы достать проездной, так как в другой руке была еще сумка. Для этого я отошла к свободному креслу. Контролер, наверное, подумал, что я хотела выйти, схватил меня за рукав пальто, дергал и кричал: «Мелочь пузатая, шалава, будет меня учить!». Я предъявила проездной, но у меня выпал из рук кошелек — все это время контролер тряс меня и тянул к выходу, а потом подтолкнул ногой кошелек под сиденье.

Пассажиры в салоне стали стыдить его и требовали прекратить безобразие. А я плакала и не могла вырваться из его рук. Он вышел на остановке «Стадион «Трактор».

Да разве можно допускать такое хамство? Ведь кто-нибудь да должен же этого «мужчину» призвать к порядку? Кто?..

### НЯМА КУДЫ І ПАСКАРДЗІЦЦА

**Н.ТРУШАНАВА.**

Каму паскардзіцца, калі цябе абразілі?

Прыкладна дзесяць дзён таму я рашыла зрабіць невялікую пакупку ў камерцыйнай краме пад незразумелай назвай «Рэдж», якая размясцілася на тратуары па вуліцы Маскоўскай супраць «Дома быту». Разлічваючыся за тавар, падала гандлярцы пачку «вавёрак». Але тая адмовілася іх прымаць. Безумоўна, я пацікавілася, на якой гэта падставе, дзе і калі была прынята пастанова аб адмене гэтых нацыянальных білетаў? Завязаліся спрэчкі. У рэшце рэшт гандлярцы прыйшлося пералічыць гэтыя купюры, бо рэч была ў маіх руках. Але напаследак яна мяне непрыстойна абразіла. Што ж гэта робіцца? Па-мойму, ўсё ж пара неяк навесці парадак з гэтымі крамамі. Па-першае, хто даў права гэтай маладзіцы абражаць старэйшага чалавека? Можа ёй грошы пералічваць часу не хапала? Але не, чаргі не было. Гэтыя пытанні, вядома ж, аб культуры, якой няма. Але яны не адзіныя. Наколькі я ведаю, ёсць рашэнне аб прымяненні ў камерцыйным гандлі касавых апаратаў. Дзе яны? Калі знайшлі сродкі адкрыць сваю справу, знойдуць і на апарат, — так я мяркую. І наогул чырвоныя паўпустыя «лаўкі» псуюць архітэктуру сталіцы, ствараюць нязручнасць грамадзянам, займаючы месца на шматлюдных тэрыторыях, як па той жа Маскоўскай вуліцы. Аб якім імкненні да «цывілізаванага грамадства» можна гаварыць, калі дазволена вось такім хамам абражаць грамадзян? Чаму няма ні на адным кіёску тэлефона і адраса гэтай фірмы, а таксама прозвішча гандляра? У дзяржаўным гандлі можна запатрабаваць хаця б кнігу скаргаў, а тут паскардзіцца куды? Думаю, гэта не адзіночная думка, бо ў большасці працоўных грамадзян сядзяць гэтыя камерсанты, як кажуць, у пячонках. Хто яны? Новыя гаспадары жыцця? Але няма каму гаварыць і каму скардзіцца. Бо няма каму навесці звычайны парадак. Не думайце толькі, што з-за абразы я перабольшваю ў фарбах. Не, проста ўжо цярпець ўсё гэта на кожным кроку немагчыма.

